



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 канал

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

28 лютага 2014 года **9 (983)**



**Чытаць 400 кніг у год**

Актыўныя чытачы не задаволяць пісьменнікам расслабляцца.

старонка 21

**"У дзіцяці лепшы сябар – перфаратар"**

Людміла толькі нарадзіла, калі яе ўласная кватэра ператварылася ў вар'яцкі дом...

старонка 20

**За год стала на чвэрць больш наркаманаў** с. 20

**Маладзечна ў тройцы лідараў цэн на кватэры** с. 3

**Цяпер ад небяспечнай працы можна адмовіцца** с. 2


## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### "Чалавекам года-2013" стаў Эдуард Мацюшонак

**ВІЛЕЙКА.** "Чалавекам года-2013" на Вілейшчыне прызнаны мастак настаўнік выяўленчага мастацтва гімназіі №1 "Логас" **Эдуард Мацюшонак**. Гэта рашэнне журы агучылі на раённым злёце перадавікоў народнай гаспадаркі раёна, які адбыўся 21 лютага. "РГ" паведамляла, што летась выставы карцін мастака прайшлі ў Мядзеле, Астраўцы, Глыбокім.

### Прыедзе 40 настаўнікаў з Віленскай школы

**АСТРАВЕЦ.** 6 сакавіка ў Астравец у межах міжнароднай адукацыйнай праграмы "Краязнаўства без межаў" прыязджае 40 настаўнікаў віленскай СШ "Жарос". Іх прымае Астравецкі цэнтр пазашкольнай работы. Яго супрацоўнікі разам з замежнымі гасцямі наведаюць Жыровічы, Мірскі замак і Нясвіж. Падрабязней пра адукацыйную праграму на 5-й старонцы.

### Усталююць "Мядзведжую акадэмію"

**СМАРГОНЬ.** У нядзелю, 2 сакавіка, падчас святкавання горадам Масленіцы, у 12 гадзін адбудзецца ўрачыстае адкрыццё скульптурнай кампазіцыі. Аўтар – ганаровы грамадзянін Смаргоні заслужаны дзеяч мастацтваў **Уладзімір Церабун**. Святкаванне Масленіцы будзе доўжыцца ў Смаргоні ад 11 да 15 гадзін дня.

### Пракансультуюць жанчын

**МАЛАДЗЕЧНА.** Правядуць бясплатную кансультацыю юрыст і псіхолаг тэрытарыяльнага цэнтра сацабслугоўвання для жанчын па пытаннях сацыяльнай абароны. Яна пройдзе ў сераду, 5 сакавіка, ад 17 да 19 гадзін у цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча. Папярэдні запіс па тэлефоне **8(0176) 77-15-66.**

### Забаранілі лавіць шчупака

Ад 1 да 31 сакавіка, згодна з Правіламі вядзення рыбалоўнай гаспадаркі, забараняецца лавіць шчупака звычайнага ў сувязі з нерастам. Парушальнікам пагражае штраф ад 10 да 50 базавых велічынь. Для вызначэння памеру кампенсацыі шкоды, нанесенай навакольнаму асяроддзю фізічнымі і юрыдычнымі асобамі ў выніку незаконнага знішчэння шчупака, адна базавая велічыня ў перыяд забароны на яго лоўлю налічваецца ў трайным памеры.

**Аддзел інфармацыі.**



# І вяршыня пакарыцца, калі сям'я побач




Фота з архіва Тэрэсы КОШАНЬ.

Тэрэса Кошань: "Горы – гэта захапленне на ўсё жыццё. Пакуль не пакарылі апошнюю вяршыню, жыццё працягваецца".

**АШМЯНЫ. У краязнаўчым музеі імя Францішка Багушэвіча 21 лютага адкрылася выстава "Сям'я ў аб'ектыве".**

Героямі выставы сталі звычайныя сем'і, што жывуць у Ашмянах: сем'і майстроў-рукадзельнікаў **Селістроўскіх і Свірскіх**, сям'я аматараў турызму **Кошань**, доктарская дынастыя **Гучыкаў, Лукашэвічаў**, удзельнікі рэспубліканскай акцыі "Сям'я! Служым разам!" сям'я **Чэрскіх.** Мы хочам пазнаёміць вас з гэтымі сем'ямі бліжэй.

### Снег у гарах цёплы і сіні

– Гісторыя майго захаплення гарамі, – пачынае размову **Тэрэса Кошань**, – пачалася даўно, але першую сваю вяршыню я пакарыла толькі ў 2010 годзе. За два гады да гэтага мой сын **Юры Кошань** пайшоў у горы ўпершыню. Ён потым мне сказаў, што будзе ўсё сваё жыццё мне ўдзячны за тое, што я параіла яму пайсці ў горы.

За два гады Тэрэса Вацлаваўна разам з сынам пакарылі восем карпацкіх вяршынь, некаторыя па некалькі разоў, гэтым летам пабывалі ў Крыме.

– Крымскія горы непрытульныя. Халодныя. Яны зусім не вабяць. Магчыма, таму, што там, на вяршынях крымскіх гор, былі мёртвыя гарады. І для пад'ёму горы цяжкія, непрыступныя. Іншая справа Карпаты. Там нават снег цёплы. У нас, калі бярэш снег у руку, ён сваім холадам апякае скуру, а ў гарах ён натуральна цёплы навобмацак. І снег там сіняга колеру.

**– Вы хадзілі ў горы ў розныя сезоны. У якую пару года горы найпрыгажэйшыя?**

– У кожным сезоне ў гарах ёсць свая прыгажосць. Напрыклад, світанак у гарах. Я нават не ведаю, як вам перадаць гэту прыгажосць. Уявіце сабе, што вы адзін стаіце ў белым-белым воблаку. А на свеце больш нікога. І вось тут, дзе цішыня аж звініць, пачынае падымацца сонца. У гарах яно падымаецца вельмі хутка. І ваша воблака, у якім вы стаіце, становіцца ружовым. Я некалькі разоў сустракала світанак у гарах, але калі надыходзіць гэты момант, заўсёды баюся, што мне гэта толькі сніцца. Не адчуваеш ні рук, ні ног, ні галавы. Толькі лёгкасць, толькі палёт. На зямлі такога не пабачыш.

**– А чым вабяць зімнія горы?**

– Небяспекай. У мінулым годзе 26 студзеня мы выбраліся ў горы. Кіраўнік нашай групы быў супраць таго, каб мы ішлі на вяршыню. Было папярэджанне аб магчымым зыходзе лавіны. Група ісці адмовілася, мы з сынам пайшлі ўдваіх. Калі падымаліся ўгору, надвор'е было цудоўнае: свяціла сонца, іскрыўся сняжок. На ялінках столькі снегу, быццам яны з футра, так і хочацца падысці памацаць. Але нельга, таму што пад снегам можа быць і прорва.

**Наталля ТУР.**

**Працяг на 18-й старонцы.**



Фота Наталлі ТУР.

У конкурсе "Тры ножкі" трэба было трымацца адно за аднаго. І не толькі не ўпасці, але і прыйсці да фінішу раней за пару сапернікаў.

СВЯТЫ

# Прыйшла Масленіца, зацвілі пралескі...

**МАЛАДЗЕЧНА. Масленіцу адзначылі ў сацыяльна-педагагічным цэнтры ў суботу, 22 лютага.**

Нягледзячы на тое, што масленічны тыдзень пачаўся толькі ў панядзелак, дзеці і выхавальнікі сацыяльна-педагагічнага цэнтра вырашылі паскорыць надыход вясны і зладзілі свята загадзя.

Для дзетак-выхаванцаў гэта было сапраўднае і такое доўгачаканае свята: з цукеркамі і блінамі, з музыкай і танцамі, віктарынамі і эстафетамі. Распавядае дырэктар цэнтра **Таццяна Шчэбет:**

– Масленіцу мы ладзім у цэнтры штогод. І кожны раз гэта нешта новае, свежае, непаўторнае. Двое нашых педагогаў **Валянціна Хома** і **Марына Відміч** заўсёды ператвараюць звычайнае забаўляльнае мерапрыемства ў казку. Ужо за тыдзень да свята дзеці разам з педагогамі вывучылі масленічныя традыцыі і абрады, каб у суботу расказаць пра іх сваім бацькам, якіх мы запрасілі на свята. На жаль, не ва ўсіх бацькоў атрымалася прысутнічаць на ім. А з самай раніцы ў суботу дзеці прымяралі святочныя ўборы, падбіралі упрыгожванні. Прычым як дзяўчынкі, так і хлопчыкі: размалёўвалі шчокі, прымацоўвалі стужачкі.

Першая частка мерапрыемства прайшла на вуліцы. Старэйшыя дзеці падзяліліся на дзве каманды: "Бліны" ды "Аладкі". Малодшыя занялі месца ў "глядзельнай зале" ў якасці групы падтрымкі.

Спачатку дзеці пазнаёмілі ўсіх прысутных за значэннем масленічных дзён, расказалі і пра панядзелак-сустрэчу, і пра аўторак-зайгрыш, і пра ўсе астатнія дні святочнага тыдня. А калі справа дайшла да даравальнай нядзелі, дзеці кінуліся сваім бацькам на шыю, каб папрасіць у іх прабачэння за ўсё. І бацькі таксама папрасілі прабачэння ў сваіх дзяцей.

А потым была эстафета, дзе трэба было скакаць, бегаць, паказваць сваю спрытнасць, хуткасць, кемлівасць. Ну дзе тут абыдзешся без падтрымкі старэйшых? Таты, матулі і нават бабулі з задавальненнем успомнілі маладосць і разам з дзецьмі акунуліся ў атмасферу гульні: падскоквалі, бегалі, імкнуліся апярэдзіць каманду-саперніцу.

Калі стаміліся старэйшыя, самыя маленькія выхаванцы цэнтра пераймалі ў іх азарт: збіралі пралескі, якія "выраслі" ў самым цэнтры двара, а потым цукеркі, што "выраслі" на самым дзіўным у свеце "цукеркавым дрэве". А калі цукеркі засталіся толькі на самых высокіх галінках, старэйшыя хлопчыкі падхапілі малых на рукі, пасадзілі сабе на плечы і разам сабралі ўсе да адзінай цукеркі.

Ці варта распавядаць пра тое, якая каманда перамагла ў гэты дзень? У гэты дзень перамагла і вясна, і сяброўства, і добры настрой. Скончылася свята, як і прынята, святочным сталом, дзе галоўным пачастункам былі бліны.

**Наталля ТУР.**

**Больш фота на сайце**






Фота Наталлі ТУР.

Падтрымаць удзельніка сваёй каманды апладысментамі – самае лепшае, што можа зрабіць глядач. На здымку выхавальніца цэнтра – Насця, удзельніца каманды "Аладкі".



Фота Наталлі ТУР.

У даравальную нядзелю прынята прасіць у самых блізкіх і родных прабачэння. Дзеці першыя зрабілі крок насустрач бацькам.

МАЮ ПРАВА

# Ад небяспечнай працы можна адмовіцца

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 25 студзеня ўступілі ў моц змяненні Закона "Аб ахове працы".**

Адна з асаблівасцяў новай рэдакцыі Закона ў тым, што цяпер работнік мае права адмовіцца ад выканання даручанай работы. Гэта дапускаецца, калі работа нясе непасрэдную небяспеку для жыцця і здароўя яго і людзей навокал. Можна адмовіцца і ад работы, калі працадаўца не забяспечыў сродкамі індывідуальнай абароны, якія забяспечваюць бяспеку працы.

У новай рэдакцыі Закона вызначаны парадак дзеянняў работніка. Калі ён адмаўляецца ад даручанай работы, абгрунтоўваючы небяспекай, то павінен адразу пісьмова паведаміць пра гэта працадаўцу ці ўпаўнаважанай службовай асобе. Абавязкова пазначыць матыў. Усю астатнюю работу падначалены мусіць выконваць.

Да таго ж, ад 25 студзеня абавязак наймальнікаў – не перашкаджаць работнікам у іх праве на ахову працы. Акрамя абавязкаў, працадаўца атрымаў дадатковыя правы для аховы працы. Артыкул 18 дазваляе працадаўцу праводзіць медыцынскі агляд, каб праверыць, ці знаходзіцца падначалены ў алкагольным, наркатычным ці таксічным ап'яненні.

Медагляд робяць тады, калі дастаткова прычын лічыць, што падначалены ў стане ап'янення.

**Вікторыя ПАЛЯШЧУК, памочнік пракурора Маладзечанскага раёна, юрыст 3 класа.**

У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# У крамах пераважае імпартны льняны алей

**МАЛАДЗЕЧНА. ВАЛОЖЫН. МЯДЗЕЛ. Бюджэтныя сродкі на закупку сельгастэхнікі і абсталявання часта выкарыстоўваюць неэфектыўна.**

Падчас маніторынгу Камітэт дзяржкантролю выявіў у некаторых арганізацыях такія выпадкі.

У снежні 2011 года Красненскі льнозавод набыў ільноўборачны камбайн коштам амаль 3450 мільёнаў рублёў. Пакупка адбылася ў межах Рэспубліканскай праграмы аснашчэння сучаснай тэхнікай і абсталяваннем арганізацый аграпрамысловага комплексу.

Але з-за няспраўнасці гідраўлікі камбайн для ўборкі лёну не выкарыстоўвалі ні ў 2012, ні ў 2013 гадах. Праўда, гаспадар спрабаваў парамантаваць апарат.

### А ў Валожыне...

Падобная сітуацыя склалася і на Валожынскім ільнокамбінаце. З-за няспраўнасці гідраўлікі льноцерабілкі змаглі пацерабіць толькі 3,5 гектара лёну. Апарат каштуе каля 1280 мільёнаў рублёў.

Цэх па вытворчасці льнянога алею працуе неэфектыўна. Для таго, каб яго пабудаваць, спатрэбілася шматмільярдная дзяржаўная падтрымка.

**З-за недахопу сыравіны летась перапрацавалі толькі 252 тоны льнасемя, а гэта толькі 15% магутнасцяў цэха.**

Камбінат атрымаў 61 тону льнянога алею, які ў асноўным прадавалі для тэхнічных патрэб. А ў крамах пераважае імпартны льняны алей.

Адсюль вынікае стратная праца цэха.

### Купіў за мільёны – паставіў у склад

"Пруднікі-Агра" Мядзельскага раёна ў 2007 годзе набыло за кошт бюджэту даільна-малочны блок за 350 мільёнаў рублёў. Больш за шэсць год яму не знаходзяць прымянення, блок захоўваюць на складзе.

Больш за паўгода не выкарыстоўваюць даільна-малочны блок на малочнатаварнай ферме "Старына" таварыства "Слабадская зара". На яе рэканструкцыю ў 2012-2013 гадах аддалі мільярды з бюджэту.

**Паводле інфармацыі Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

### Папраўка

У артыкуле "Фестываль "Маладзечна-2014" набліжаецца", у №8 ад 21 лютага, рэдакцыяй дапушчаная недакладнасць. Уладальніцай Гран-пры ў 2013 годзе стала магілёўчанка Валерыя Грыбусава. Просім прабачэння ў чытачоў.

● НЕРУХОМАСЦЬ




Цэны на кватэры будуць павышацца яшчэ, прагназуе эксперт. Найбольшым попытам карыстаюцца "маласямейкі" і аднапакаёвыя кватэры.

# Маладзечна ў тройцы лідараў цэн на кватэры

**МАЛАДЗЕЧНА. У 2013 годзе Маладзечна ўвайшло ў тройку лідараў сярод найбуйнейшых гарадоў Беларусі па росце цэн на кватэры.**

Чым быў абумоўлены такі бурны рост цэн на жыллё ў райцэнтры? Чым сёння жыве рынак і як можа развівацца сітуацыя ў горадзе ў далейшым?

Гэтыя і іншыя пытанні журналіст партала Realt.by абмеркавала з дырэктарам аднаго з агенцтваў па продажы нерухомасці **Маргарытай Сушко**.

**Нагадаем, што па выніках 2012 года Маладзечна з коштам квадратнага метра 678 долараў займала другі радок (пасля Салігорска) у рэйтынгу ТОП-10 самых дарагіх раённых гарадоў Беларусі.**

Паводле звестак партала Realt.by, у 2013 годзе рост цэн на кватэры ў Маладзечне склаў 33% і дасягнуў адзнакі 942 долары за квадратны метр. Гэта дазволіла гораду ўвайсці ў тройку лідараў сярод найбуйнейшых гарадоў Беларусі па росце цэн на кватэры і заняць першы радок сярод самых дарагіх райцэнтраў рэспублікі.

### Прадаўцы павышаюць цэны на кватэры

Па словах Маргарыты Сушко, бурнаму росту цэн на кватэры ў Маладзечне спрыяла падвышаная пакупніцкая актыўнасць, якая назіралася практычна ўвесь год – аж да лістапада. Усплёск актыўнасці адбыўся ў лютым, красавіку і чэрвені мінулага года. Гэта дазволіла ўжо за паўгода падняць цэны на аднапакаёвыя кватэры прыкладна на 30%.

Пачынаючы з лістапада мінулага года аж да лютага 2014 года на маладзечанскім рынку жылля было зацішша. На думку дырэктара агенцтва нерухомасці, гэта было звязана з тым, што ўвесь гэты час людзі жылі, ды і працягваюць жыць, у чаканні дэвальвацыі нацыянальнай валюты. Яны не ведалі, як паводзяць сябе цэны, таму часова замарозілі свае грошы.

У жніўні рост цэн на кватэры спыніўся. Усе чакалі, што пачнецца іх падзенне.

– Але цэны не пайшлі ўніз. Яны стабілізаваліся на некалькі месяцаў, а сёлета з лютага зноў пачаўся іх рост. Прадаўцы зноў паднялі цэны на свае кватэры як мінімум на 5-7 тысяч долараў, – распавядае Маргарыта Сушко.

**У лютым 2014 года ў горадзе зноў пачалі актыўна прадаваць кватэры. Асабліва моцна падаражэлі аднапакаёвыя.**

Калі летась аднапакаёвую кватэру можна было купіць за 30-32 тысячы долараў, то ў лютым такія кватэры выстаўляюцца на продаж як мінімум за 37,5 тысячы, 40 тысяч, 41 тысячу долараў. І гэта не мяжа.

Калі ў пачатку 2013 года сярэдняя цана на двухпакаёвыя кватэры агульнай плошчай 48 квадратных метраў складала прыкладна 40-43 тысячы долараў, то сёння такую кватэру выстаўляюць на продаж як мінімум за 53-55 тысяч.

**Квадратны метр маладзечанскай кватэры на "другасным рынку" перасягнуў адзнаку ў 1000 долараў.**

– Вядома, не факт, што за такія цэны кватэры купяць. Але мы праводзілі аналіз. Да прыкладу, у верасні мінулага года адна кватэра выстаўлялася на продаж за 55 тысяч долараў, цяпер яна рэкламуецца за 62 тысячы долараў. Прадаўцы настроеныя на рост цэн. Гэтым усё і тлумачыцца, – распавядае дырэктар маладзечанскага агенцтва нерухомасці. – Прычым ніхто не збіраецца зніжаць цэны. Ці яшчэ прыклад. Зусім нядаўна праз наша агенцтва нерухомасці афармлялася здзелка па куплі-продажы аднапакаёвай кватэры. Спачатку прадавец пагадзіўся прадаць кватэру за 30 тысяч долараў, а потым падняў цану да 35 тысяч долараў і хутка прадаў.

Кватэр, якія рэкламуюць па завышаных цэнах па паўгода, па году, дастаткова шмат у інфармацыйнай базе. Але гэта не палохае прадаўцоў. Яны з зайздроснай сталасцю павышаюць цэны на свае жылыя памяшканні.

### Цэны будуць расці

Частка прадаўцоў, якія раней выстаўлялі свае кватэры на продаж у надзеі хутка рэалізаваць і з'ехаць у Мінск, цяпер зняла іх з продажу. У сувязі з ростам цэн на мінскія кватэры, купля кватэры ў Мінску аказалася для іх толькі запаветнай марай.

Што тычыцца пакупнікоў, то ў сувязі з ростам цэн яны вымушаны купляць самыя танныя аб'екты. Усё больш актыўна попытам карыстаюцца "маласямейкі", кватэры і дамы ў прыгарадзе.

У апошні час сталі больш актыўна прадаваць сваю спадчыну ў Маладзечне мінчане. Праяўляюць цікавасць да нерухомасці казахі. Па ўсім відаць, ім не хапае грошай на кватэру ў сталіцы, таму яны вымушаныя разглядаць прыгарад, выказала меркаванне Маргарыта Сушко.

Мяркуючы па сённяшняй сітуацыі, якая склалася на маладзечанскім рынку жылля, можна казаць аб тым, што цэны на кватэры ў бліжэйшай перспектыве будуць расці.

– Таму што людзі па такіх цэнах купляюць кватэры. Торг калі і ёсць, то не больш чым на 1-2 тысячы долараў. Больш за тое, я думаю, што рост цэн будзе ісці пастаянна. Даражэе сабекошт будаўніцтва. Пакупнікі, якія хочуць кватэру ў новабудоўлі, будуць мець патрэбу ў большай і большай даплаце. Адпаведна, яны будуць прадаваць свае старыя кватэры па максімальна высокім цэнах, – кажа Маргарыта Сушко.

**Алена МАСЛОЎСКАЯ, Realt.by.**

| Курсы валют НБ РБ | 20.02 | 27.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 9 720,00 | 9750 |
| Еўра | 13 370,00 | 13400 |
| Злоты | 3 215,67 | 3224.1 |
| Літ | 3 872,90 | 3880.83 |
| Расійскі рубель | 273,00 | 272.5 |
| Грыўня | 1 077,01 | 963.44 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9720/9790 | 9750/9800 |
| Еўра | 13350/13470 | 13380/13480 |

| Цэны на рынку (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 19.02 | 26.02 |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 108200 | 105500 |
| Сасіскі, 1 кг | 45550 | 58050 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 25800 | 21900 |
| Ялавічына, (выразка), 1 кг | 88000 | 67000 |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 28500 | 29000 |
| Селядзец, 1 кг | 32500 | 29000 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 93000 | 89000 |
| Рыс, 0,9 кг | 9700 | 9500 |
| Грэчка, 0,9 кг | 9500 | 8500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 13500 | 13500 |
| Алей | 14000 | 12000 |
| Маянэз, 200 г | 5000 | 5000 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 7500 | 7500 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 28000 | 28000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 10000 | 10000 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6200 | 6500 |
| Капуста, 1 кг | 5500 | 5500 |
| Морква, 1 кг | 6000 | 6000 |
| Буракі, 1 кг | 6000 | 6000 |
| Лімоны, 1 кг | 21500 | 21000 |
| Апельсіны, 1 кг | 13500 | 12500 |
| Мандарыны, 1 кг | 14900 | 14500 |
| Памідоры, 1 кг | 23800 | 15000 |
| Агуркі, 1 кг | 29700 | 32000 |
| Перац, 1 кг | 32000 | 39000 |
| Вінаград, 1 кг | 22800 | 27000 |
| Бананы, 1 кг | 13000 | 14500 |
| Яблыкі, 1 кг | 8600 | 9000 |
| Грушы, 1 кг | 18400 | 18000 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 13500 | 13500 |
| Масла, 1 кг | 80000 | 80000 |
| Тварог, 1 кг | 42000 | 42000 |
| Бульба, вядро 5 л | 20000 | 20000 |
| Сала, 1 кг | 55000 | 55000 |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | 50000 |




Калаж Настассі РОЎДЫ.

1 клік – 7 гадоў калоніі. Менавіта такое пакаранне пагражае маладзечанцу, які "замініраваў" 11 школ горада летась у верасні, адаслаўшы адпаведныя паведамленні па электроннай пошце.

● ПРАКУРАТУРА, СУД

# "Мінёра" будуць судзіць

**МАЛАДЗЕЧНА. Завершанае расследаванне крымінальнай справы супраць маладзечанца, які ў верасні паведаміў аб мініраванні адзінаццаці ўстаноў адукацыі горада.**

Маладзечанскія школы 5 верасня атрымалі па пошце лісты з патрабаваннем пералічыць 10 тысяч долараў на пэўны рахунак. У супрацьлеглым выпадку ананім пагражаў узарваць бомбу.

Школы эвакуявалі, але выбуховак не знайшлі. Праўда, вылічылі "мінёра".

– Устаноўлена, што ўраджэнец Маладзечанскага раёна, 1983 года нараджэння, каб скампраметаваць свайму знаёмаму, ад імя апошняга зарэгістраваў электронную скрыню і электронны паштовы кашалёк, выкарыстаўшы для гэтага беспраўную кропку доступу да сеткі інтэрнэт (WI-FI), – паведаміла прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**. – У выніку такіх злачынных дзеянняў нанесеная шкода ў выглядзе дэзарганізацыі нармальнай працы ўстаноў адукацыі, а таксама выдаткі на мабілізацыю служб склалі больш за 119 мільёнаў беларускіх рублёў.

Судзіць мужчыну будуць за несанкцыянаваны доступ да камп'ютарнай інфармацыі, здзейснены з іншай асабістай зацікаўленасці, а таксама за загадзя ілжывае паведамленне пра мяркуемы выбух, што пацягнула нанясенне шкоды ў буйным памеры і іншыя цяжкія наступствы.

**Яму пагражае да сямі гадоў калоніі.**

Крымінальная справа перададзена пракурору для накіравання ў суд.

**Паводле "Нашай нівы".**

● ЗДАРЭННІ

# Крымінальны дуэт на Ашмяншчыне

**АШМЯНЫ. Пераследавалі зладзеяў па гарачых слядах аператыўнікі Ашмянскага крымінальнага вышуку.**

Добрая падрыхтоўка і назіральнасць дапамаглі затрымаць крымінальны дуэт, які неаднойчы краў з гандлёвых павільёнаў на мясцовым рынку.

11 лютага каля апоўначы двое беспрацоўных маладых людзей узламалі замок і праніклі ў краму з адзеннем. Вынеслі адтуль частку рэчаў, крыху адышлі, перааправануліся і выправіліся вярнуцца.

Знайшлі касавы апарат і выцягнулі адтуль усе грошы, а каб замесці сляды, павільён вырашылі падпаліць. Далей па дарозе яны кралі з суседніх павільёнаў грошы, алкаголь і прадукты харчавання.

Яшчэ правяралі, ці замкнёныя дзверы ў прыпаркаваных аўтамабіляў, хацелі ўкрасці.

Міліцыянеры, якія прыбылі на месца, адразу заўважылі выразныя сляды парушальнікаў. Па іх аператыўнікі прайшлі каля двух кілометраў, пакуль адзін з супрацоўнікаў не пачуў шум на беразе мясцовай рачулкі. Гэта быў адзін са зладзеяў.

Ён паспрабаваў сысці ад пераследу, скокнуўшы ў рэчку з ледзяной вадой, але яго ўсё роўна затрымалі. Падчас дагляду знайшлі частку скрадзенага.

На другога ўдзельніка дуэта звярнулі ўвагу крыху пазней. Аказалася, ён таксама хаваўся каля рэчкі.

Гэты крадзеж для маладога чалавека далёка не першы. Раней ён ужо выкраў касу райспажыўтаварыства і ўсе грошы прайграў у казіно. Прызналіся зладзеі таксама ў тым, што знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення.

Узбудзілі крымінальную справу. Ім пагражае пазбаўленне волі ад 7 да 12 гадоў. Сваімі дзеяннямі яны прычынілі шкоду на суму каля 240 мільёнаў рублёў.

**Міхаіл КУЗНЯЦОЎ,**
**УУС Гродзенскага аблвыканкама.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Лепш правілы дарожнага руху ведаюць у Палачанах

**МАЛАДЗЕЧНА.** Раённая алімпіяда па ПДР сярод навучальных устаноў раёна адбылася 10 лютага.

Пераможцаў узнагародзілі ў Маладзечанскім аддзеле ДАІ у аўторак, 25 лютага.

Удзельнічалі вучні 5-7 класаў. Найлепшы вынік паказалі вучні Палачанскай школы, якія занялі першае месца. Крыху не дацягнулі прадстаўнікі СШ №9 і Алёнавіцкай школы.

Сярод вучняў пераможцамі сталі вучань 5 класа Палачанскай школы **Міхаіл Фалей**, шасцікласнік СШ №14 **Дзяніс Сянько** і вучань 7 класа з Палачанаў **Антон Лапата**.

## Шукаюць кіроўцу "Аўдзі-4"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Аварыя з удзелам машыны здарылася 6 снежня каля 17:45 на 55-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Нарач.

Кіроўца "Аўдзі-4" не ўлічыў умовы надвор'я і дапусціў некіруемы занос машыны. Ён выехаў на паласу сустрэчнага руху і далей на левую абочыну, дзе сутыкнуўся з аўтамабілем "Фольксваген-Каравэла". Пасажырка "Фольксвагена" атрымала цяжкія цялесныя пашкоджанні.

Просім відавочцаў звярнуцца ў аддзел ДАІ у кабінет 12 ці 18. Тэлефоны: **8(0176) 74-53-40, 74-53-45, 74-68-41** ці па тэлефоне **102**.

**Сяргей БАРТОШ,**
**дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**



● ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

# Здайце зброю – пазбаўцеся адказнасці

**МАЛАДЗЕЧНА. Спецыяльнае комплекснае мерапрыемства "Арсенал" праходзіць ад 24 да 28 лютага.**

Мерапрыемства арганізаванае для таго, каб знайсці зброю і боепрыпасы, якія захоўваюць незаконна.

Тыя, хто добраахвотна здасць зброю і боепрыпасы, пазбавяцца крымінальнай адказнасці.

Паведаміць пра зброю, боепрыпасы, выбуховыя рэчывы, якія незаконна захоўваюцца, можна па нумары Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце **8(0176) 74-24-16** ці па тэлефоне **102**.

**Таццяна СУБАЧ,**
**старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце.**

● СЛУЖБА 101

# У Лабачоўцы згарэў пенсіянер

**МАЛАДЗЕЧНА. 23 лютага выратавальнікі Маладзечанскага аддзела па надзвычайных сітуацыях выязджалі на тушэнне бытоўкі для пражывання ў садаводчым таварыстве "Гранат", што ў вёсцы Лабачоўка на Маладзечаншчыне.**

Паведамленне аб гэтай надзвычайнай сітуацыі паступіла а 10 гадзіне раніцы.

У выніку пажару бытоўка выгарала знутры.

Загінуў яе 60-гадовы гаспадар, а яго сын атрымаў апёкі абедзвюх кісцяў рук другой ступені.

Асноўная з верагодных прычын – парушэнне правілаў эксплуатацыі печаў, цеплагенеруючых агрэгатаў і прылад, – паведаміла інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС **Ксенія Цімафеева**.

**Наталля ТУР.**

# У вёсцы Уша загінуў мужчына

**МАЛАДЗЕЧНА. Трагедыя здарылася 22 лютага ў вёсцы Уша Красненскага сельсавета.**

Каля гадзіны ночы патэлефанавалі на нумар 101 і паведамілі, што ў вёсцы гарыць жылы дом.

Калі выратавальнікі прыбылі на месца здарэння, агонь ужо знішчыў дом знутры, перакрыцце абвалілася. Пры тушэнні дома спецыялісты службы выратавання знайшлі цела загінулага гаспадара: 63-гадовага мужчыны, пенсіянера.

Прычына пажару высвятляецца, – паведаміла інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС **Ксенія Цімафеева**.

**Наталля ТУР.**




Злева – маладзечанец Арсень Макей, вучань СШ №5, які паўгода правучыўся ў Германіі па праграме "Стыпендыят" фонду Ўсходняй Еўропы і педагагічнай службы па абмене. Справа ад яго – Нора і Хрыстаў, сястра і брат, у сям'і з якімі падчас навучання ў чужой краіне жыў хлопец.

# Арсень вяртаецца з Германіі

## Маладзечанскі вучань правучыўся ў замежжы паўгода

**МАЛАДЗЕЧНА. Напярэдадні Дня жанчын, 7 сакавіка, дэлегацыя з Маладзечна едзе на дзесяць дзён у нямецкі горад Гётынген.**

Там, у Хайнберг-гімназіі, паўгода правучыўся вучань сярэдняй школы №5 **Арсень Макей**.

Ён – 15-ты школьнік, які паехаў вучыцца па праграме "Стыпендыят" фонду Ўсходняй Еўропы і педагагічнай службы па абмене.

Часта атрымлівалася, што ўдзельнікі праграмы фактычна гублялі год, бо яны не мелі магчымасці засвоіць школьную праграму і заставаліся ў тым жа класе. Некаторыя здавалі экзамен экстэрнам і пераводзіліся. Сёлета Арсень прыязджае раней, чым іншыя стыпендыяты. У яго наперадзе яшчэ навучальная чвэрць, таму застацца на другі год яму не пагражае.

– Гэтай сустрэчай мы працягваем праект "У гульні гуляем, гульні распрацоўваем", – распавядае настаўніца нямецкай мовы сярэдняй школы №5 **Зоя Дылеўская**. – Калі ў верасні да нас прыязджалі госці з Германіі, мы разам з імі ладзілі гульні, звязаныя з нашай мясцовасцю. Удзельнікі фатаграфавалі розныя месцы горада. Цяпер мы вязём ім створаную намі карту, дзе скарысталі здымкі, зробленыя падчас іх прыезду. Вучням давядзецца прыгадаць, што гэта за месцы.

У Гётынген едуць дзевяць вучняў і двое настаўнікаў, якія і прымалі ў верасні замежных гасцей. Разам з Зояй Дылеўскай едзе **Алена Парахня**, завуч па выхаваўчай рабоце. З імі будзе і эндакрынолаг маладзечанскай дзіцячай паліклінікі **Алена Запрудская**.

**У межах супрацоўніцтва з Хайнберг-гімназіяй ладзяцца сустрэчы ў падтрымку хворых на цукровы дыябет.**

Заўсёды госці з Германіі прывозяць паўтары тысячы спецыяльных тэст-палосак для хворых дзяцей.

У Гётынгене падчас сакавіцкага прыёму беларусаў запланаваная і сустрэча з нямецкім доктарам. А наш доктар адзін дзень ад раніцы да вечара праўдзе пабыч з ім. У Алены Запрудскай будзе магчымасць паназіраць за працай доктара ў нямецкай установе аховы здароўя.

– Гэта заўсёды вельмі цікава, – лічыць спадарыня Зоя. – У Германіі нашмат больш хворых на дыябет, чым у нас. Аднак і тэхналогіі лячэння іншыя, новыя.

Выязджае група ў пятніцу. Выхадныя яны правядуць у нямецкіх сем'ях. Тры дні беларускія дзеці правядуць на занятках у нямецкай гімназіі. Запланаваныя і экскурсіі, і паездка ў аквапарк, і паход у танцавальную школу, і гульні ў спартзале, і міні-гольф. Будзе і сустрэча з мэрам Гётынгена.

Занятыя ўдзельнікі паездкі будуць ад 9 раніцы да 16 гадзін вечара. Астатні час праводзяць у сям'і, якая іх прымае.

Напрыканцы, па традыцыі, на развітальнай сустрэчы Хайнберг-гімназія назаве новага вучня сярэдняй школы №5, якога запросяць на наступны год у Германію.

– На гэту сустрэчу прыходзяць усе сем'і, якія прымаюць нас, – дадае спадарыня Зоя. – І бабулі, і дзядулі. І ўсе дзеляцца сваімі ўражаннямі ад сустрэч і часу, праведзенага разам.

# Грант на 50 тысяч еўра не выйгралі, але справу не кінулі

**АСТРАВЕЦ. Раней "Рэгіянальная газета" пісала пра тое, што на базе Варнянскіх яслі-сада-сярэдняй школы ствараюць першы ў краіне адукацыйны цэнтр па захаванні ласосяў. Аднак гэта не адзіны праект у Астравецкім раёне.**

У праграме "Краязнаўства без межаў" з беларускага боку задзейнічаныя дзве ўстановы: цэнтр пазашкольнай работы і Кемелішкаўская сярэдняя школа. Ад Літвы – краязнаўчы цэнтр "Ускраіны Віленшчыны" і вільнюская СШ "Жарос".

Ідэя стварыць такі праект з Літвой нарадзілася яшчэ чатыры гады таму. На мэце ў арганізатараў было аб'яднаць моладзь памежжа і развіць турызм.

– Спачатку падалі заяўку на атрыманне гранту ў 50 тысяч еўра ад ЕС, – распавядае дырэктар цэнтра пазашкольнай работы **Наталля Сенюць**. – Праект разглядалі год, але ў выніку нам адмовілі – недастаткова буйныя арганізацыі для атрымання такой сумы. Аднак ад ідэі мы не адмовіліся і вырашылі займацца гэтым, але за свае ўласныя сродкі.

Праект вырашылі зладзіць на тры гады. Яго ўдзельнікі неаднаразова выязджалі ў Літву на экскурсіі, гэтаксама, як і літоўскія вучні прыязджалі ў Беларусь.

Візы ўдзельнікі праектаў атрымлівалі бясплатна, як з беларускага, так і з літоўскага боку.

– Ужо потым у нас з'явіліся спонсары, якія дапамагалі ажыццяўляць нашы задумы, – працягвае спадарыня Наталля. – Арганізавалі лагер, куды запрасілі і літоўскіх дзяцей. У іх там такога віду адпачынку для дзяцей вельмі мала: толькі што прыватныя лагеры, за якія давядзецца шмат заплаціць. Да нас прыязджаў хлопец, яму 16 было, аднак ён ніколі не ездзіў у лагер. Быў проста ў захапленні. Ладзілі дні беларускай і літоўскай культуры, гатавалі нацыянальныя стравы, ладзілі розныя гульні, праводзілі нацыянальныя святы.

**У 2013 годзе Астравецкі цэнтр пазашкольнай работы на аглядзе-конкурсе прызналі лепшай установай адукацыі вобласці ў намінацыі "дадатковая адукацыя дзяцей і моладзі "Брэнд адукацыі-2013".**

Цяпер праект вырашылі працягнуць яшчэ на тры гады. Да таго ж, ён пашыраецца. Ужо сёлета удзельнікаў чакае паездка ў Санкт-Пецярбург у Расію.

– Дзякуючы праекту мы выйшлі на новы ўзровень, – лічыць спадарыня Наталля. – Мы ўжо займаем месцы і на абласных конкурсах, якія тычацца турызму. Раней нічога такога не было. Да нашага праекта хочуць далучацца і іншыя гарады вобласці, цяпер і ім гэта цікава.

# Смаргонь абменьваецца досведам з Германіяй, Літвой, Расіяй, Украінай

**СМАРГОНЬ.Смаргонская гімназія супрацоўнічае з гімназіяй Святога Бенядыкта літоўскага горада Алітус.**

Яны абменьваюцца досведам, арганізоўваюць выхаваўчы працэс.

Таксама гімназія супрацоўнічае ў межах праекта "Навучанне для будучыні" з сярэдняй школай №10 горада Казань у Расіі і гімназіяй "Гармонія" Кіева пад эгідай ЮНЕСКА.

Смаргонская школа №5 супрацоўнічае са школамі Германіі ў межах міжнароднага праекта "Сустрэча з Усходняй Еўропай". Скіравана гэта на павышэнне ўзроўню вывучэння нямецкай мовы.

Інавацыйнай дзейнасцю, скіраванай на прафарыентацыю, займаецца і сярэдняя школа №6.

Увядзеннем у навучанне інавацый займающца і дзве дашкольныя ўстановы: Смаргонскі дашкольны цэнтр развіцця дзіцяці і дзіцячы яслі-садок №6. Яны супрацоўнічаюць з Міжнародным дзіцячым фондам.

У яслях-садку працуюць з дзецьмі з парушэннем зроку.

– Вельмі мала дашкольных устаноў не толькі ў раёне, але і ў вобласці, якія з'яўляюцца інавацыйнай пляцоўкай, – заўважыла намесніца начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Смаргонскага райвыканкама **Іна Савіцкая**.

Адукацыйны праект "У коле сяброў" ёсць і ў сацыяльна-педагагічным цэнтры. Тут дзеці ў сацыяльна-небяспечным становішчы праходзяць рэабілітацыю. Праект таксама спансуе Міжнародны дзіцячы фонд.

# У Ашмянах ужо рыхтуюць новыя праекты на наступны год

**АШМЯНЫ. У раёне сёлета завяршаюцца два інавацыйныя праекты: у Навасёлкаўскім ВПК яслях-дзіцячым садку-сярэдняй школе і сярэдняй школе №1 горада Ашмяны.**

Праект Навасёлкаўкага ВПК – "Укараненне мадэлі ўзаемадзеяння сям'і і агульнаадукацыйнай установы ў сучаснай сацыякультурнай сям'і". Дарэчы, дзейнасць працягваецца ўжо тры гады.

Праект СШ №1 горада Ашмяны – "Укараненне мадэлі сістэмнага выкарыстання інфармацыйных тэхналогій для развіцця агульнаадукацыйнага асяроддзя ўстановы адукацыі".

Ужо цяпер у раёне працуюць над тэмамі наступных праектаў, якія яны хацелі б ажыццявіць.

– Творчыя групы ўстаноў адукацыі распрацоўваюць праекты па трох тэмах, – распавядае метадыст раённага вучэбна-метадычнага кабінета **Вольга Барысенка**. – "Укараненне мадэлі фарміравання прадпрымальніцкіх кампетэнцый у вучняў сельскай школы ва ўмовах сацыяльнага партнёрства" і "Укараненне мадэлі працы па фарміраванні самазахавальных паводзінаў вучняў праз арганізацыю валанцёрскай дзейнасці ў межах сістэмы "Роўны навучае роўнага", "Укараненне мадэлі суправаджэння працэсаў сацыялізацыі школьнікаў у інтэрнэтпрасторы "Класны кіраўнік у сацыяльнай сетцы". Вядома, праекты могуць не прайсці экспертызу, аднак гэта тыя накірункі, у якіх плануюць працаваць школы.

**Інфармацыю па адукацыйных праектах у іншых раёнах чытайце ў наступным нумары "РГ".**



Паласу падрыхтавала
**Настасся РОЎДА.**
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

**КНІГІ**

# Чацвертае вымярэнне Збігнева Жакевіча

**Не ведаю, як каму, а мне было цікава прачытаць пра Маладзечна 30-х гадоў мінулага стагоддзя наступнае:**

"Мы ідзём па вуліцы Сеймікавай да Бакшчанінаў. Так мы мінаем магазін кілбас Хлябёнка, адкуль так нясе кілбасным водарам, што ніводзін сабака не можа спакойна мінуць хлябёнкаў магазін…

У Юрэка Касяркевіча ёсць два злотыя, і вось мы адпраўляемся ў вялікі свет. Праходзім каля Хлябёнка, Бакшчанінаў і ўніз па прыступках да магазіна Эстэркі… За спіной Эстэркі вісіць доўгі сшытак з адрыўнымі лістамі, як у календары. Гэты сшытак плаціць за нас: колькі б ні набралі Манька ці мая маці, усё гэта змесціцца ў сшытку".

Або: "Тое, што сёння серада, вядома з самага досвітку: па нашай вуліцы ясеневым і кляновым звонам звоняць фурманкі. Сядзенне з саломы, між драбінкамі, як належыць, заслана льняной посцілкай, ззаду выцягваюць шыі гусі, пара пеўняў, у кашы – перасыпаныя сечкай яйкі. Таму што яны павінны быць свежыя, пакуль лета яшчэ не ў росквіце… І так усю раніцу ўсе збіраюцца на наш дзірван… Мужыкі скручваюць самакруткі і моўчкі дымяць, спакойныя і асцярожныя, хаця яны загадзя ведаюць, што жыдкі іх ашукваюць. Так было і будзе.

**Потым яны нап'юцца гарэлкі, і, калі баба што не так скажа, адаб'юць сваю крыўду на бабе…"**

### Кнігі знойдуць чытача пасля смерці аўтара

Мне выпадае гонар прадставіць вам, паважаныя, выдатнага маладзечанца, фенаменальнага польскага пісьменніка і лаўрэата шматлікіх літаратурных узнагарод **Збігнева Жакевіча** (1933-2010). У апошнія дзесяцігоддзі ў нашай літаратуры няспынна ідзе працэс адкрыцця новых ці забытых імёнаў. Маладзечаншчына таксама налічвае іх нямала. Але не кожны, хто піша, – такі філосаф, мастак слова і вобразаў, як Збігнеў Жакевіч. Сваім скрупулёзным самааналізам ён прымушае задумацца пра вытокі чалавечага лёсу, шматзначнасць свету, у якім мы ўсе злучаныя між сабой.

Збігнеў Жакевіч – аўтар больш чым 100 мастацкіх твораў для дарослых і дзяцей, літаратуразнаўчых артыкулаў, эсэ, звязаных з прадметам яго навуковых даследаванняў у Гданьскім універсітэце, дзе ён выкладаў рускую літаратуру. На памяць нам засталася яго поўная сыноўняй любові трылогія "Віленскі трыпціх", якую ўзялося сёлета выдаць найбуйнейшае айчыннае выдавецтва "Беларускі кнігазбор". Шкада, што яго кнігі знойдуць чытача ўжо пасля смерці пісьменніка, які пісаў іх, здаецца, спецыяльна для нас.

### Мастак рафінаванага слова

Фармальна Збігнева Жакевіча можна было б залічыць да шырокага кола літаратараў Віленшчыны, куды заўсёды ўваходзіла гістарычная Ашмяншчына, і якія былі яе выдатнымі знаўцамі і даследчыкамі. Збігнеў Жакевіч, аднак, вылучаецца тут як творца вельмі арыгінальны, мастак рафінаванага слова з шырокім і пранізлівым поглядам на свет. Можна сказаць, што перад намі – другі Адам Міцкевіч, тым больш, што і сам ён лічыў сябе перайманьнікам Міцкевіча і пісаў некаторыя творы унікальнай мастацкай манерай – гімнічнай прозай.

### Зазнаў голад, пакуты і смерць

Народжаны ў Вільні, выхаваны ў бацькоўскім доме ў Маладзечне і невялічкім маёнтку дзеда пад Крэвам, Збігнеў Жакевіч належаў да сям'і з беларускімі, літоўскімі, польскімі і татарскімі каранямі і лічыў шматнацыянальнасць тутэйшых мясцін за выдатную іх асаблівасць. У 40-я гады ён стаў сведкам грозных падзей на Ашмяншчыне. Зазнаў голад і пакуты, перажыў смерць многіх блізкіх, у тым ліку дзядулі з бабуляй і бацькі. У 1946 годзе разам з маці быў рэпатрыяваны ў Польшчу.

Гэта быў час станаўлення яго юнацкага светапогляду, маральных арыенціраў, і перажыванні дзяцінства станавіліся часам непад'ёмным цяжарам для ўражлівай маладой душы. Напаўна, таму літаратурная творчасць стала для Збігнева Жакевіча спосабам вызваліцца ад цяжару ўспамінаў, зразумець праблемы жыцця і ўласнай сям'і. Таму галоўным героем сваіх твораў ён заўсёды робіць самога сябе – пад рознымі імёнамі і вобразамі.

### Экскурсія ў шчаслівае дзяцінства

Падзеі свайго дзяцінства ён падае на надзвычай шырокім фоне жыцця мясцовага люду, ужываючы аўтэнтычныя геаграфічныя назвы і тутэйшыя дыялекты ашмянскай беларушчыны і віленскай польскай мовы. Сапраўдным адкрыццём становіцца не толькі адлюстраваная ў яго аповесцях беларуская гаворка, але і захаваныя ў яго памяці беларускія прыслоўі, вершы, анекдоты і песні. Іх выкарыстанне надае творам Жакевіча жывасць, гумар і ўраўнаважвае іх трагізм і песімізм.

Жыццю ў Маладзечне прысвечаная самая першая аповесць трылогіі – "Воўчыя лугі", у якой падзеі падаюцца вачыма зусім маленькага хлопчыка, якім быў тады Жакевіч. Сам пісьменнік тлумачыў, што пагружэнне ва ўспаміны дзяцінства было для яго апошняй экскурсіяй у шчаслівую краіну дзяцінства, таму такой важнай была для яго кожная дробязь.

Мы павінны быць удзячныя Збігневу Жакевічу і за тое, што ён пакінуў апісанне асобы свайго настаўніка з вёскі Ленкаўшчына пад Крэвам, беларускага паэта і самаахвярнага беларуса **Юльяна Сергіевіча**, пра якога ў 2013 годзе шмат пісаў краязнаўчы часопіс "Куфэрак Віленшчыны". Сергіевіч першы распазнаў вялікі літаратурны талент свайго вучня, прадказваў яму будучыню выдатнага пісьменніка.

Як ніводзін выхадзец з Заходняй Беларусі, Жакевіч адчувае сваю арганічную повязь з гэтай зямлёй і ўмее выказаць свае пачуцці найкарацейшай дарогай – ад сэрца да сэрца: "Да канца жыцця, сынок, сюды будзе вяртацца тваё сэрца. Хоць бы ты быў сабе за жалезнай гарой і за каменнай ракой. Воўк ты панскі і ваўчок ты наш. Тутэйшы ты, і мы для цябе як здароўе. Калі нас страціш, будзеш па нас сумаваць. Калі нас знойдзеш, то нас не пазнаеш.

**А калі душа твая пачне ўсыхаць, то ты будзеш падмацоўваць яе па-нашаму, гарэлкай. Здароўя ўжо не купіш, хіба што пасля смерці. Айайай… Пахаваюць у непасвечанай зямлі…"**

### Творы з чацвертым вымярэннем

Будучы дасведчаным у гісторыі сваіх родных мясцін, Жакевіч пакінуў нам апісанне Крэўскага замка, залескай сядзібы кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага падчас вайны, гістарычных помнікаў Лоска, Беніцы, Маладзечна, натхнёнае апісанне мясцовых пачастункаў, звычаяў, гаспадарчых занятках дробных землеўладальнікаў, прыроды.

Мне вельмі імпануе бачанне Жакевіча, дзякуючы якому яго творы набываюць як бы чацвертае вымярэнне. Той вельмі цяжкі перыяд гісторыі нашага краю даўно патрабаваў пяра вялікага і непераўзыдзенага майстра, і вось ён з намі. Сваім асабістым болем, сваімі творчымі намаганнямі ён узвысіў і ўпрыгожыў гісторыю сваёй Айчыны. Я спадзяюся, што будучая кніга зойме пачэснае месца ў кнігазборах маладзечанцаў.

**Таццяна КЛЯШЧОНАК,**
**перакладчыца "Віленскага трыпціха".**




**Збігнеў Жакевіч (1933–2010), польскі пісьменнік, лаўрэат шматлікіх літаратурных узнагарод, родам з Вільні. Дзяцінства правёў у Маладзечне і ў невялічкім маёнтку дзеда пад Крэвам. У яго творах нібыта сваімі вачыма бачыш Віленшчыну сярэдзіны 20-га стагоддзя. Яго трылогію "Віленскі трыпціх" сёлета збіраецца выдаць "Беларускі кнігазбор".**

**КУЛЬТУРА**

## Хор ветэранаў вайны і працы адзначыць юбілей канцэртам

**ВІЛЕЙКА.** У пятніцу, 28 лютага, адбудзецца канцэрт, прысвечаны 25-годдзю народнага хору ветэранаў вайны і працы Палаца культуры.

У канцэрце прымуць удзел не толькі юбіляры, але і вядучыя калектывы Палаца культуры. Павіншаваць народны хор з юбілеем прыйдуць прадстаўнікі улады, прыхільнікі творчасці.

Пачатак канцэрта ў 16 гадзін. Уваход на яго вольны, паведаміла намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо**.

## "Дзве зоркі" праспяваюць шансон

**ВІЛЕЙКА.** У Палацы культуры 5 сакавіка адбудзецца музычнае шоу "Дзве зоркі" – "Шансон ля мора". Гэта другі сезон праекта "Дзве зоркі": першы прайшоў у 2010 годзе. У гэтым сезоне, як сведчыць назва, удзельнікі будуць выконваць шансон.

У праекце возьмуць удзел дзесяць дуэтаў. Адзін прадстаўнік дуэта – прафесіянал, а другі – удзельнік мастацкай самадзейнасці ці чалавек, які проста любіць спяваць.

– Кожны дуэт павінен не толькі выканаць песню, але і падрыхтаваць інсцэніроўку, якая адпавядае канцэпцыі "Адзін дзень на беразе мора", – расказала намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо**.

Удзельнікаў праекта чакаюць прызы. А старшынёй журы будзе выканаўца шансона **Сяргей Славянскі**. Ён не толькі разам з іншымі ўдзельнікамі журы вызначыць лепшы дуэт, але таксама выканае свае песні.

Пачатак музычнага шоу ў 18 гадзін. Апроч выступлення дуэтаў, будуць конкурсы з гледачамі, латарэя.

## Вілейскі касцёл на палатне мастака

**ВІЛЕЙКА.** У выставачнай зале імя Сілівановіча 25 лютага распачалася выстава прац **Аляксандра Зубрыцкага**. На ёй прадстаўлена 28 карцін, выкананых у тэхніцы мазаікі. На іх творца ўвекавечыў гістарычныя мясціны Беларусі, паведаміла навуковы супрацоўнік музея **Надзея Аўдзей**. У тым ліку пяць прац звязаныя з Вілейшчынай. Гэта выявы вілейскага касцёла, помніка паўстанцам 1863 года, іншыя творы.

Аляксандр Зубрыцкі – мастак-аматар, жыве ў Мінску. Але ў маладосці ён тры гады працаваў афтальмолагам у вілейскай бальніцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота subscribe.ru

Лепшы спосаб не мець наркатычную залежнасць – і не спрабаваць наркотыкі. Гэта самы просты варыянт для таго, хто хоча адчуваць сябе свабодным, гаспадаром свайго лёсу.

1 САКАВІКА – МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ БАРАЦЬБЫ З НАРКОТЫКАМІ

# За год стала на чвэрць больш наркаманаў

**Наркотыкі – гэта добра. Яны прыносяць радасць, бесклапотнасць і шчасце. Кайф.**

Гэта бясспрэчная праўда. Яе добра ведаюць тыя, хто спрабаваў забаронены сродак ці рэчыва. Калі нам хораша, мы хаваем гэта ці імкнёмся падзяліцца з усімі, хто вакол, падмацоўваючы эмацыйнымі пазітыўнымі словамі. А калі нам раптам жудасна балюча, і пры гэтым адчуваем сорам і віну.

Вось і атрымліваецца, што пра станоўчае і цікавае ўздзеянне наркотыку ведаюць многія і ад рэальных людзей. Пра негатыўныя аспекты таксама ведаюць. Але ад тых, хто сам не спрабаваў тое, пра што гаворыць, і такіх – меншасць.

**Пад назіраннем дактароў-нарколагаў у Маладзечанскім псіханеўралагічным дыспансеры знаходзіцца 44 чалавекі. Усяго зарэгістравана 87 наркаспажыўцоў.**

Напярэдадні Міжнароднага дня барацьбы з наркотыкамі перабіраю ў памяці былых наркаманаў горада. Света, Сяргей, Косця… За дзесяць год працы “былых” на маёй памяці каля дзесяці. Яны памерлі. Сталі былымі. А тых, хто “завязаў”, мая памяць не знаходзіць. Рэдкі нарказалежны дажывае да 35 год.

Для раёна насельніцтвам амаль у 140 тысяч гэта 0, 087% – нішто і ніхто. А рост наркаспажыўцоў за мінулы год на 25% відавочны толькі для спецыялістаў. Гэты рост адбыўся з-за праблем, якія выклікалі курыльныя сумесі ці спайсы.

### Чалавек вар’яцее пасля першага ўжывання спайсу

Гэта разнавіднасць травяной курыльнай сумесі, у склад якой уваходзяць сінтэтычна створаныя рэчывы, аналагі вядомага наркотыку з расліны марыхуана. Пры яе прыёме адбываецца не толькі псіхалагічная залежнасць, але і фізічная. Іх ствараюць з вядомай “асновы” шляхам новай хімічнай формулы і напыленнем рэчыва-навінкі на травы ці табак. І далей – да спажыўцоў, якія шукаюць новыя ўражанні ці проста забавы.

Сумесі маюць асаблівасць: іх не выпрабоўвалі. Ні на людзях, ні на жывёлах. Адсюль непрадказальная рэакцыя спажыўца і яго арганізма. Курыльныя сумесі выклікаюць у маладых людзей вар’яцтва. Людзі перастаюць кантраляваць сябе і адказваць за свае ўчынкі. Нават пасля першага ўжывання чалавек вар’яцее і ў некаторых выпадках не прыходзіць у норму нават пасля месяца стацыянарнага лячэння.

З-за спайсаў развіваюцца цяжкія псіхічныя захворванні, падобныя да хранічных псіхозаў. Але як іх лячыць, пакуль невядома.

**Рызыка ад ужывання спайсаў у 12 разоў большая, чым ад ужывання іншых вядомых наркотыкаў. За мінулы год з-за спайсу загінула больш за дзесяць падлеткаў, яшчэ каля тысячы шпіталізавалі.**

Апошнія месяцы ў СМІ і інтэрнэце ўсё часцей з’яўляюцца публікацыі кшталту: “19-гадовы наркаман забіў 13-гадовага падлетка з-за спайсу”, “Падлетак загінуў ад парэзаў разбітым шклом у стане ап’янення спайсамі”, “Двое маладых людзей шпіталізавалі ў рэанімацыю з падазрэннем на атручэнне спайсамі, адзін з іх загінуў”, “Дзяўчынку знайшлі мёртвай ля свайго пад’езда ў ванітах пасля курэння спайсу”… Гэта сігнал бедства, эпідэміі, якія набліжаюцца.

Хтосьці можа падумаць, што я залішне катэгарычны? У гэтым вельмі хочацца памыліцца. Але праблема не ў вядомых наркотыках і “вулічаных” нарказалежных, якія асэнсоўваюць свой боль і звяртаюцца па дапамогу. Праблема ва ўмоўна легальных сумесях і стаўленні да нязведанага. Гэта цікавасць абуджаецца значна раней, чым мы прывыклі думаць.

Адна калега днямі распавяла гісторыю, як яе сын, другакласнік, у прыбіральні школы ўбачыў аднакласніка, які спрабаваў нюхаць клей-аловак. Нічога не адбывалася, і сямігадовае дзіця здзіўлялася і злавалася, што няма ніякага эфекту. Сын-аднакласнік у непаразуменні, калега-мама – у шоку, я – з новымі высновамі для прафілактычнай работы. Чытач можа зрабіць свае.

### Нават не спрабуйце

Самае страшнае – дазволіць сабе паспрабаваць. І самае важнае, што можа зрабіць для сябе кожны, – стрымацца ад спакусы. Сказаць сабе “НЕ”, адмовіцца ад рызыкоўнага задавальнення. Гэта можа зрабіць кожны. А вось адмовіць сабе пасля таго, як спазнаеш новае і радаснае, можа толькі вельмі моцны духам і здаровы целам чалавек.

У мяне няма праблем з наркотыкамі, але я не ўпэўнены, што, аднойчы паспрабаваўшы, змагу стрымацца. Таму і не спрабую. Я адказны за сваё здароўе і свабоду выбару. Таму я і наркотыкі – па розныя бакі.

**Аляксандр БАЖКО, загадчык Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера, галоўны пазаштатны псіхіятр-нарколаг Маладзечанскага раёна.**



КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# “У дзіцяці лепшы сябар – перфаратар”

**МАЛАДЗЕЧНА. Людміла толькі нарадзіла, калі яе ўласная кватэра ператварылася ў вар’яцкі дом…**

– Як толькі нашы новыя суседзі набылі кватэру, то зазірнулі да мяне і папярэдзілі: “Мы збіраемся рабіць рамонт, але будзем прыходзіць да вас і папярэджваць, у які час. Калі вам будзе нязручна, знойдзем кампраміс”, – распавядае Людміла.

Адразу мы ўзрадаваліся, падумалі: во людзі разумныя! Але на справе ўсё апынулася інакш. Спачатку сусед сапраўды нас некалькі разоў папярэджваў. Аднак потым мы ўжо пачалі хадзіць да яго самі.

Дзверы нам адчынялі розныя рабочыя. Праўда, ім ніхто не сказаў, што нас трэба папярэджваць. І пачалося: рамонт ад 8 раніцы і да вечара. І рамонт жа не просты які, а натуральная перапланіроўка кватэры: сцены зносілі, батарэі мянялі…

Днём дзіця спіць, а яны пачынаюць свідраваць і сцены бамбіць. Усё, зразумела, сыплецца ў іх на падлогу. А ў нас такое адчуванне, што землятрус пачаўся. Мы жывём на першым паверсе… Дзіця пачало ўздрыгваць, цяпер усяго палохаецца. Жонка ж нашага суседа на гэта адказала так: “Маленькія дзеці ў такім узросце нічога не чуюць”.

У адзін дзень яны пачалі нас тапіць: на кухні па шпалерах пацякла вада. Пайшла да іх, там сантэхнік, сказаў, падыдзе хутка. Ад 17 гадзін вечара да самай ночы я яго чакала, але дарэмна. Ніхто да нас так і не прыйшоў.

Потым у дзіцячым пакоі пачала адыходзіць сцяна, з’явіліся шчыліны. Калі ж сусед пачаў рабіць рамонт у прыбіральні, смецце пасыпалася і да мяне ў туалет.

### Прасілі спыніць рамонт хаця б на гадзіну, каб пахрысціць дзіця

Хрысцілі дзіця дома і давялося прасіць, каб хоць гадзіну цішыня пабыла. Работнікі пагадзіліся. Гадзіну пацярпелі.

Выхадныя, будні, раніца ці ноч, працы ішлі ўвесь час.

Аднойчы, было ўжо калі 23 гадзін вечара, яны паставілі новую сцяну і пачалі перастукваць, мабыць, правяралі, як паставілі. Дзіця амаль заснула, але з такой стукатнёй, вядома, не заснеш. Пайшла да іх, кажу: “Можа, разам з вамі пастукаць, каб справа хутчэй пайшла?” Тут ужо пасыпаліся абразы.

А калі патэлефанавала ў міліцыю, каб спытаць, у які час павінна быць цішыня, мне адказалі: ад 8 раніцы да 23 гадзін вечара можна рабіць усё, што ўздумаецца.

Неяк давялося ў бальніцу легчы, дык яна падалася раем у параўнанні з уласным домам. Цішыня.

Скончылася гэта ўсё праз паўгода, 31 снежня. Суседзі засяліліся.

### Каментуе “Камунальнік”

Як паведамілі ў “Камунальніку”, калі чалавек не выконвае нормы пры рамонце, шуміць, варта звяртацца ў ЖРЭУ. Работнікі домакіраўніцтва павінны ўпэўніцца, што суседзі сапраўды парушаюць не толькі ваш спакой, але і закон, і тады складаюць адпаведны акт.

Для гэтага апытваюць іншых суседзяў, спрабуюць заспець момант парушэння. Спецыялісты Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі замяраюць узровень шуму, каб пераканацца, ці перавышае ён дазволены ўзровень. Калі суседзі дазваляюць сабе яшчэ і абразіць вас – з гэтым звяртайцеся ў міліцыю.

**Рабіць рамонт можна толькі ў рабочыя дні ад 9 да 19 гадзін. Тэлевізар і музыка не павінны перашкаджаць суседзям. Ад 23 да 7 гадзін павінна быць цішыня.**

На баку Людмілы ў гэтым выпадку быў закон. Паводле Палажэння аб парадку пераўладкавання і перапланіроўкі жылых памяшканняў у шматкватэрных дамах забараняецца:

- праводзіць у выхадныя і святочныя дні работы, якія ствараюць шум і вібрацыю.

- пачынаць работы, якія ствараюць шум ці вібрацыю, раней за 9 гадзін ці пазней за 19 у рабочыя дні.

- прымяняць абсталяванне і інструменты, ад працы якіх узровень шуму і вібрацыі перавышае дапушчальныя санітарныя нормы.

Карыстацца тэлевізарам, радыё, магнітафонамі і іншымі гучнымі прыладамі можна толькі тады, калі гук не парушае спакою жыхароў жылога дома. Ад 23 да 7 гадзін павінна быць цішыня.

Калі суседзям хочацца слухаць гучную музыку ці тэлевізар ноччу – няхай купляюць навушнікі. З рамонтам давядзецца спраўляцца ў вызначаны законам час.

**Настасся РОЎДА, Зоя ХРУЦКАЯ.**

БІБЛІЯТЭКА

# Чытаць 400 кніг у год

## Актыўныя чытачы не дазваляць пісьменнікам расслабляцца

**МАЛАДЗЕЧНА. Цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча ўганаравала самых верных і актыўных чытачоў у аўторак, 25 лютага.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Той, хто чытае кнігі, за словам у кішэню не палезе і ў любой кампаніі будзе прыемным суразмоўцам.

Бібліятэкары для сваіх самых адданых чытачоў зладзілі сапраўдны салон з чаяваннем. Запрасілі музыкаў і спевакоў, парупіліся знайсці спонсараў, якія дапамаглі з салодкім пачастункам, у перапынку паказалі вясёлыя ролікі пра бібліятэку. Гасцям заставалася толькі атрымліваць асалоду і прымаць віншаванні.

### Кніга – як хлеб

"Чытачоў года" выбіралі ў розных намінацыях, а пераможцамі сталі людзі вельмі розных прафесій і з разнастайнымі жанравымі перавагамі.

Рыцарам кнігі стаў маладзечанец **Аляксандр Макураў**, які любіць чытаць добры дэтэктыў ці фантастыку.

– Як людзі ядуць хлеб, так я чытаю кнігі, – распавёў кнігалюб. – Перарываюся на абед, бывае, а магу і не перарывацца. Калі маю добрую кнігу – я шчаслівы. А калі няма чаго чытаць – настрой адразу пагаршаецца.

Загадчыца крамы "Белмаркет" **Маргарыта Блізнюкевіч** з'яўляецца чытачкай маладзечанскай бібліятэкі ад 1969 года. І чытае яна так, як вучаць настаўнікі: занатоўвае патрэбнае ў чытацкі дзённік.

– А як жа інакш, – тлумачыць жанчына. – Калі я прачытала 80 кніг аўтара, то трэба ж запісаць назвы, каб ведаць, што яшчэ засталося. Чытаць я заўсёды любіла, а як дзеці выраслі, то і час на гэта з'явіўся.

Вядучыя жартаўліва назвалі наступную чытачку той, за якой не паспяваюць спраўляцца пісьменнікі. Самы тоўсты фармуляр аказаўся ў бухгалтара "Амкадора-Унікаба" **Валянціны Самаль**. За мінулы год яна прачытала 419 бібліятэчных кніг.

Лэдзі дэтэктыў стала пенсіянерка **Ларыса Кастусік**. Як яна прызналася, кнігі гэтага жанру дораць ёй такія ўражанні, якія не атрымлівае ні ад чаго іншага.

### Любіць раманы ў 85

Прыцягнуць сучасных дзяцей да кнігі – няпростая задача. Аднак яе выканаў інжынер завода металаканструкцый **Аляксандр Луцкі**. Ён найбольш любіць прыгоды, якія дазваляюць пераключыць увагу ад штодзённых клопатаў. Яго сын Кірыл таксама любіць захапляльныя гісторыя, але хутчэй з фантастыкі ці фэнтэзі.

Мадам каханне стала прадавец **Наталля Шаўчук**, якая больш за ўсё любіць кнігі пра рамантычныя пачуцці.

Класічную літаратуру выбірае былая настаўніца рускай мовы і літаратуры **Іна Ларына**. Яе назвалі кніжным гурманам, а яна параіла вучыцца ў кнігах веры, гонару і годнасці.

Аматарам беларускай кнігі стаў настаўнік фізікі СШ №11 **Аляксандр Давідовіч**, які найбольш любіць творы Уладзіміра Караткевіча.

Работнікі бібліятэкі ўпэўненыя, што мір і згода будуць панаваць у той сям'і, дзе падзяляюць захапленні. І адно з найлепшых – кніга. У сям'і **Наталлі і Аляксадра Гойдзіных** чытаюць усе:

– Без кнігі сябе не ўяўляем, – распавядае Наталля. – Нават 85-гадовая свякроў чытае, прычым выключна раманы пра каханне!

Чытачоў узнагароджвалі і ў іншых намінацыях, а яны адказвалі падзякай бібліятэкарам. Загадчыца бібліятэкі **Наталля Івашынка** паведаміла, што "Чытача года" вызначалі ўпершыню, але імпрэза можа стаць традыцыйнай.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**А колькі кніг за год прачыталі вы? Пра што любіце чытаць? Распавядзіце ў каментарах, а таксама паглядзіце больш фота на сайце**




ПАМЯЦЬ

# На Беларусі ўшануюць Тараса Шаўчэнку

**МАЛАДЗЕЧНА. Да 200-годдзя класіка ўкраінскай літаратуры на Беларусі праходзяць адмысловыя мерапрыемствы.**

19 лютага ў Нацыянальнай бібліятэцы адбыўся "круглы стол" на тэму "Тарас Шаўчэнка і ўплыў яго творчасці на духоўны свет славянскіх народаў". Удзельнікаў павіталі дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі, кіраўнік Таварыства дружбы "Беларусь-Украіна", прафесар, доктар педагагічных навук **Раман Матульскі** і Пасол Украіны ў Беларусі **Міхаіл Ежэль**.

На святочным мерапрыемстве былі і прадстаўнікі таварыства ўкраінцаў "Краяны" – старшыня **Леанід Лысакабылка**, сябры **Вольга Жарская і Дзмітры Рудых**.

Леанід Лысакабылка ў сваім выступленні распавёў пра аўтабіяграфію пісьменніка і яго кароткае жыццё – 47 год. Расказаў і пра асабісты лёс. У апошнія гады ён быў самотны, нежанаты. Напрыканцы выступлення зачытаў верш "Якби з ким сісти хліба з'їсти".

Прафесар доктар філалагічных навук **Вячаслаў Рагойша** прааналізаваў пасланне Тараса Шаўчэнкі "І мёртвым, і жывым, і ненароджаным землякам маім на Украіне і не на Украіне". Дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар** распавёў пра Тараса Шаўчэнку і **Эдварда Жэлігоўскага** як пра сыноў двух славянскіх народаў. Прагучалі і іншыя выступленні. Даследчыкі выступалі з тэмамі па аналізе творчасці пісьменніка, праводзілі паралелі яго з беларускімі мастакамі слова.

### Школьнікі малявалі ў памяць Шаўчэнкі

У гонар 200-годдзя пісьменніка праводзіцца конкурс дзіцячага малюнка. У ім прымаюць удзел таварыства "Краяны" і Маладзечанская мастацкая школа, якія даслалі дзесяць работ. Ад 25 лютага да 5 сакавіка яны выстаўляюцца ў Мінскім Палацы моладзі.

5 сакавіка падвядуць вынікі конкурсу і ўзнагародзяць пераможцаў. Пра вынікі "РГ" паведаміць у адным з наступных нумароў.

**Леанід ЛЫСАКАБЫЛКА, старшыня культурна-асветніцкага таварыства ўкраінцаў "Краяны".**




Фота забяспечана Леанідам ЛЫСАКАБЫЛКАМ.

200 год Тарасу Шаўчэнку адзначаюць 9 сакавіка.



Фота забяспечана Леанідам ЛЫСАКАБЫЛКАМ.

Саветнік па культуры Пасольства Украіны Васіль Бондар і кіраўнік маладзечанскага таварыства ўкраінцаў "Краяны" Леанід Лысакабылка.

МУЗЕІ

# Адкрылі музей, прысвечаны Максіму Танку

**МЯДЗЕЛ. У Сваткаўскай сярэдняй школе імя Максіма Танка 21 лютага пасля рээкспазіцыі адкрылі літаратурна-краязнаўчы музей. Ён таксама носіць імя знакамітага земляка.**

Адбылася гэта падзея ў рамках педагагічнага праекта "Дарога да Максіма Танка".

Музей у гэтай школе створаны невыпадкова. Максім Танк (сапраўднае імя Яўген Скурко) нарадзіўся ў 1912 годзе ў вёсцы Пількаўшчына, за некалькі кіламетраў ад Сватак. А ў 1925-1926 гадах вучыўся ў Сваткаўскай школе. Першапачаткова музей быў адкрыты ў 1982 годзе. Яго заснавальнікам стаў настаўнік рускай мовы і літаратуры **Іван Берняковіч**. Тады музей размяшчаўся ў асобным будынку. З цягам часу будынак прыйшоў у занапад, і экспанаты размясцілі ў пакоі ў школе. А цяпер зрабілі рамонт у адным з былых кабінетаў, прадумалі і размясцілі экспазіцыю.

На адкрыцці гучаў расказ пра Максіма Танка, вершы народнага паэта Беларусі, а ў выкананні народнага ансамбля "Натхненне" з Мядзела – і песні на яго словы.

Удзельнікі пабывалі на могілках у вёсцы Новікі, дзе пахаваны Максім Танк разам жонкай Любоўю. Там ушанавалі памяць песняра, усклалі кветкі. Тут зноў жа гучалі вершы паэта.

А пераразалі стужку на адкрыцці музея начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызму Мядзельскага райвыканкама **Таццяна Яфімава** і паэт, зямляк песняра **Рагнед Малахоўскі**.

У экспазіцыі музея сем раздзелаў. Сярод іх такія, як "Шчодрая на таленты зямля", "Дзе карані мае, адкуль мой род пачаўся?", "Прайсці праз вернасць".

У музеі можна пабачыць розныя рэчы, фатаграфіі і дакументы Максіма Танка, выданні яго кніг.

**– Якія самыя цікавыя экспанаты тут?** – пытаю ў кіраўніка музея **Святланы Шылько.**

– Мяркую, гэта выданне, якое Максім Танк прывёз у школу ў 1982 годзе і падпісаў "Сябрам краязнаўчага музея ў Сватках". І яшчэ адна кніга, таксама з подпісам: яе паэт у 1963 годзе падарыў настаўніку беларускай мовы і літаратуры школы **Мікалаю Пашкевічу**.

**– А да старой экспазіцыі ці дадаліся якія экспанаты?**

– Так. Вучні разам з настаўнікамі стварылі радавод Максіма Танка, знайшлі цікавыя факты, якія вядомыя толькі родным. Дапамагала ў стварэнні радаводу сваячка Максіма Танка па жончынай лініі **Зінаіда Асаевіч** з Мінска – яна таксама прыехала на адкрыццё. Яшчэ дадалася экспазіцыя "Калыска песні паэта" – тут паказаная мадэль вясковай хаты часоў маленства песняра.

Экскурсію па музеі праводзяць вучні: дзевяць школьнікаў з 7 па 11 клас, якія ўваходзяць у вучнёўскі актыў. А яшчэ рыхтуюць юных экскурсаводаў – чацвертакласнікаў. Яны будуць праводзіць экскурсіі ў скарочаным варыянце.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

СПАБОРНІЦТВЫ

# Юшка ад пераможцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Першынство па падлёднай лоўлі рыбы сярод работнікаў устаноў адукацыі Маладзечанскага раёна адбылося 22 лютага.**




Фота зафіксавана Віталем АНОПАМ.

**Віталь Аноп (справа) ужо пяць гадоў удзельнічае ў спаборніцтвах рыбакоў. На здымку разам з Міхаілам Анопам.**

Першынство ладзіцца ўжо не першы год. Сёлета яно прайшло на возеры Свір, што на тэрыторыі Нацыянальнага парку "Нарачанскі".

У спаборніцтвах узялі ўдзел 17 работнікаў устаноў адукацыі. Лепшых рыбакоў вызначалі ў розных намінацыях.

Першае месца ў намінацыі "самы вялікі ўлоў" заняў **Віталь Аноп** (намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце маладзечанскай СШ № 4), другое месца – **Пётр Куханчык** (вартаўнік маладзечанскай СШ № 4), трэцяе месца – **Юры Яковіч** (інструктар-метадыст фізкультурна-спартыўнага цэнтра "Агеньчык"). У намінацыі "самая вялікая рыба" галоўны прыз дастаўся **Антону Лямбовічу**, настаўніку фізічнай культуры і здароўя Маладзечанскай школы-інтэрната № 2 для дзяцей з парушэннямі слыху , а ў намінацыі "самая маленькая рыбка" – **Міхаілу Анопу**, настаўніку фізічнай культуры і здароўя Хажоўскай сярэдняй школы.

Пераможца спаборніцтваў Віталь Аноп распавёў "Рэгіянальнай газеце", што ён удзельнічае у падобных спаборніцтвах ужо некалькі год запар. Да гэтага былі прызавыя месцы, а вось пераможцам стаў упершыню.

**– Рыбалку можна лічыць спартыўнымі спаборніцтвамі?**

– Я сказаў бы, што гэта круглагадовае захапленне, адпачынак. Рыбакі ўвогуле ездзяць на рыбалку не за ўловам, а, у першую чаргу, за магчымасцю адпачыць, сустрэцца і пагутарыць з сябрамі, падыхаць паветрам і назапасіцца добрым настроем. Была б толькі нагода сабрацца.

**– А якім вашым асабістым уловам, як рыбак, вы можаце пахваліцца?**

– Паўтаруся, рыбалкай я захапляюся даўно, таму былі ўловы, за якія не сорамна. Гэта і шчупакі пад пяць кілаграмаў, і ляшчы па тры.

**– А з суботнім уловам што зрабілі?**

– Лавілі пераважна дробных рыбак: плотак, акунёў, падлешчыкаў, таму частку улову ласаваліся дамашнія гадаванцы. І на юшку, зразумела.

**– Падзяліцеся рэцэптам сапраўднай рыбацкай юшкі.**

– Спачатку трэба адварыць рыбу. Прычым, зусім неабавязкова яе патрашыць спачатку. Рабіце на свой густ. Затым булён трэба працадзіць, а рыбу – астудзіць. У гэты час абіраем бульбу, рэжам і кідаем варыцца ў рыбны булён. Туды ж дадаём моркву, спецыі. Калі бульба зварылася, дадаём туды кавалачкі нашай зваранай рыбы. Калі вы перад пачаткам варкі яе не пачысцілі, то гэта трэба зрабіць цяпер. І па-рыбацку правільна, у самым канцы варкі, дадаць у юшку адну ці дзве цэлыя цыбуліны. Гэта рэцэпт так званай "аднаразовай юшкі". Калі ж рыбу варыць два ці болей разоў, юшка атрымаецца густой, бы халадзец. Тады гэта ўжо "двух ці трохразовая юшка".

**Наталля ТУР.**

НАВІНЫ

## Два юбілеі маладзечанскага футбола

**МАЛАДЗЕЧНА. У сезоне 2014 года аматараў футбола чакаюць два юбілеі.**




Калаж Аляксандра БАРАВОГА.

Першы з іх – гэта 65-годдзе выступлення каманды з Маладзечна на рэспубліканскай арэне. За гэты час маладзечанцы двойчы выйгравалі першынство рэспублікі (1963, 1991), а таксама станавіліся ўладальнікамі шэрагу іншых трафеяў. Другі юбілей менш радасны – гэты сезон стане для футбольнага клуба "Маладзечна" ўжо дзясятым у другой лізе. Лепшы вынік за ўвесь гэты час – трэцяе месца ў 2009 годзе.

Будзем спадзявацца, што сезон 2014 запомніцца заўзятарам не толькі юбілейнымі датамі, але і добрай гульнёй і высокімі вынікамі.

**Дзмітры РУХЛЕВІЧ.**

### Юныя маладзечанцы – другія ў вобласці

**МАЛАДЗЕЧНА.** Прадстаўнікі Маладзечанскага раёна – каманда мясцовай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы – занялі другое месца ў першынстве Мінскай вобласці па міні-футболе сярод ДЮСШ і СДЮШАР (юнакі 2002 года нараджэння). Фінал прайшоў 22-23 лютага ў Барысаве, паведамляе сайт абласной федэрацыі футбола.

Маладзечанцы абыгралі прадстаўнікоў спартыўнай школы Клецкага раёна 3:2 і СФК "Слуцк" 5:1 і саступілі пераможцам з Барысава 1:4.

### Маладзечанцы выйшлі ў фінал чэмпіянату вобласці па міні-футболе

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ.** Занальныя спаборніцтвы чэмпіянату Мінскай вобласці па міні-футболе праходзілі ў Лагойску 15-16 лютага.

Прымалі ў іх удзел шэсць камандаў. Тры з іх былі з нашага рэгіёна: з Маладзечанскага, Вілейскага, Мядзельскага раёнаў.

Адразу каманды былі разбіты на дзве падгрупы. Згодна з турнірнай табліцай на сайце абласной федэрацыі футбола, віляйчане выйгралі з аднолькавым лікам 2:1 у маладзечанцаў і гульцоў з Крупак. Выйшла з падгрупы і каманда Маладзечанскага раёна, якая перамагла футбалістаў Крупскага раёна 4:2 і заняла другое месца ў падгрупе.

У другой падгрупе мядзяльчане прайгралі жодзінцам 3:7 і згулялі ўнічыю з прадстаўнікамі Лагойскага раёна 3:3. Занялі трэцяе месца і не выйшлі з падгрупы.

Па выніках гульняў у падгрупах чатыры каманды стварылі групу, у якой разыгралі адзіную пуцёўку ў фінал (пры гэтым праведзеныя гульні паміж сабой ўлічваліся).

Маладзечанцы абыгралі жодзінцаў 3:2, разграмілі каманду Лагойскага раёна 7:1 і занялі першае месца. Тым самым заваявалі адзіную пуцёўку на фінальныя спаборніцтвы чэмпіянату вобласці.

Віляйчане згулялі ўнічыю з камандай Лагойскага раёна 2:2 і прайгралі 0:3 жодзінцам. У выніку – трэцяе месца.

### Турнір у Мядзеле выйгралі пастаўчане

**МЯДЗЕЛ.** 23 лютага прайшоў турнір па міні-футболе на прызы Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра. Прысвячаўся ён Дню абаронцаў Айчыны.

За перамогу змагаліся тры каманды. Выйграла турнір каманда з Пастаўскага раёна, якая атрымала дзве перамогі. Віляйчане былі другімі, мядзяльчане – трэцімі.

### Вызначылі найлепшых "снайпераў" ў Вілейцы

**ВІЛЕЙКА,** У суботу, 22 лютага, у гімназіі №2 прадоўжыліся фінальныя спаборніцтвы "Снежны снайпер". На гэты раз змагаліся прадстаўнікі гарадскіх устаноў адукацыі.

Як і тыдзень таму, у сувязі з умовамі надвор'я лыжныя гонкі замянілі спаборніцтвамі па бегу. Яшчэ ўдзельнікі стралялі з пнеўматычнай вінтоўкі.

У малодшай групе перамагла каманда сярэдняй школы №3, другое – на рахунку навучэнцаў СШ №5, трэцяе – вілейскай гімназіі №2.

У старэйшай групе лепшых вынікі ў гімназістаў: першае месца за камандай гімназіі №2, другое – у гімназіі №1 "Логас". Замкнулі тройку прызёраў прадстаўнікі СШ №3, паведаміла дырэктар раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Жанна Скуратовіч**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

БОКС

# Астраўчанін – галоўны трэнер Гродзенскай вобласці па боксе

**АСТРАВЕЦ. У зборнай па боксе Гродзенскай вобласці назначаны новы галоўны трэнер. Ім стаў трэнер з Астраўца Аляксей Маргуж.**




**Аляксей Маргуж, трэнер па боксе.**

**– Што будзе ўваходзіць у вашы абавязкі як галоўнага трэнера вобласці?**

– Цяпер давядзецца вырашаць пытанні па зборнай вобласці, якая будзе прадстаўляць Гродзеншчыну на спаборніцтвах розных узроўняў. Больш за тое, буду вырашаць пытанні па камплектацыі нацыянальнай зборнай па боксе.

**– Сёння ў нацыянальнай зборнай па боксе ёсць прадстаўнікі Астраўца?**

– Капітан нацыянальнай зборнай Беларусі па боксе – астраўчанін **Віталь Бандарэнка.** Акрамя яго, у зборную ўваходзяць **Сяргей Лобан**, **Мікіта Ромаш**, **Вадзім Мароз**. Усе яны выхадцы з Астравецкай спартыўнай школы.

**– Да прызначэння галоўным трэнерам вы працавалі трэнерам ў Астравецкай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе?**

– Новая пасада ніяк не паўплывае на месца маёй працы. Я працую трэнерам па боксе ад 1990 года, ужо, атрымоўваецца, больш за 20 год, і далей буду займацца сваёй справай, вучыць дзяцей правільна паводзіць сябе на рынгу.

**– Як вы ставіцеся да меркавання, што бокс – гэта спорт для тых, у каго сіла ёсць – розум не патрэбны?**

– Тыя, хто так гаворыць, лічаць, што і ў міліцыю прыходзяць працаваць толькі для таго, каб пісталет панасіць. Што пра бокс гаварыць? Трэба прыйсці ў спартыўную залу і самому паспрабаваць.

**Наталля ТУР.**

# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Школьнікі шукалі сакрэт ідыліі

Несумненна, Таццяна Бабей – таленавіты чалавек, які ў выніку становіцца майстрам сваёй справы. Праява таленту ў сферы працы з дзецьмі – гэта рэдкі дар, які дапамагае ў выхаванні юных сэрцаў, закладваючы асновы культуры і развіваючы мастацкія здольнасці дзяцей. Развіццё мастацкіх здольнасцяў – гэта ключ да тайнікоў душы, да адкрыцця нязведанага дагэтуль і шлях павышэння духоўных вібрацый. Галоўнае прызначэнне мастацтва любога роду – навучыць любіць, далучыць да пульсацый думак і пачуццяў, назапашаных і адлюстраваных у спадчыне. Гэты ланцужок у выхаванні, перадачы і накапленні не павінен перарывацца, і праца паплечнікаў гэтай справы святая. З задавальненнем сачу за працамі зямлячкі Таццяны Бабей і радуюся яе навінкам і дасягненням. Прыклад, відавочна, годны пераймання. Шкада, што не магу асабіста прысутнічаць на яе спектаклях.
***Антонія, паэтка, ураджэнка Маладзечна.***

### Дзень з беларускай мовай: ад рання да змяркання

Спадарыня "яшчэ адна белая варона", вам проста здаецца, што вы так выглядаеце сярод іншых, размаўляючы на беларускай мове. Калі вы будзеце штодня размаўляць на роднай мове, то неўзабаве заўважыце, што не вы, а іншыя не так размаўляюць. Проста трэба перабудавацца псіхалагічна. А калі вас хтосьці і паспрабуе дакараць, не звяртайце на іх увагу, таму што ідыёта не пераканаеш. Мой бацька калісьці любіў такую вось прымаўку: "Дурань не зразумее, а разумны нічога не скажа". Так што размаўляйце і не бойцеся блытаніны. Хай будзе лепш трасянка беларуская, чым руская. Грамадства ўспрымае беларускамоўе ў большасці сваёй станоўча, а шмат хто і зайздросціць беларускамоўнаму чалавеку. І я ніколечкі не перабольшваю. Нават у сталіцы на сённяшні дзень шмат хто з павагай адносіцца да беларускамоўнасці. Вось прыклад: у мінулым годзе неяк пад восень паехаў на "Малінаўку" "абутак" зімовы для "каня" свайго купляць. Абышоў шмат гандлёвых кропак, а зімовай "Белацаркоўкі" знайсці ніяк не мог. Кажуць, што рана, пакуль што не сезон, яшчэ не завозілі з Украіны. Сыходзячы з рынку, вырашыў заглянуць ў апошнюю кропку і ўжо без усялякіх спадзяванняў запытаў у гандляроў, але на беларускай мове: "Хлопчыкі, вы часам не падкажаце, дзе ўкраінскую гуму зімовую можна сёння раздабыць?" Адказ рускамоўных гандляроў на маё пытанне для мяне быў нечаканым і прыемным. Яны з вялікай ахвотай і задавальненнем уступілі ў гутарку з беларускамоўным кліентам. Пакуль я размаўляў з адным, другі дзесьці пабег і праз нейкі час прывёз мне доўгашуканую гуму. Акрамя гэтага, хлопцы зрабілі немалую скідку (палічылі як за летнюю) і ў дадатак да ўсяго дапамаглі гуму данесці да машыны. Вось так гандляры ўважылі "БЕЛОРУССКОГО БАТЮ", гэта так яны да мяне звярталіся. Так што мову беларускую ў нас паважаюць і хочуць, каб яна гучала. Немагчыма выглядаць у сваім ДОМЕ "белай варонай", размаўляючы на сваёй роднай мове! Таму, хай замежнікі хвалююцца.
***Алесь Раткевіч.***

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 5 | | | 3 | | 8 | |
| | | 3 | 6 | 7 | | | | 2 |
| | | | | 4 | | | | |
| | 6 | 4 | | | | | 9 | |
| 9 | | | 5 | | 4 | | | 8 |
| | 7 | | | | | 5 | 6 | |
| | | | | 9 | | | | |
| 1 | | | | 2 | 6 | 7 | | |
| | 9 | | 7 | | | 8 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## ● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙКІ




**22 лютага ў Вілейцы ў гімназіі "Логас" адбыўся занальны этап рэспубліканскага конкурсу спаборніцтваў па чырлідынгу "Піянерскія іскры". Удзельнічала 5 каманд з Мядзельскага, Вілейскага, Валожынскага, Маладзечанскага раёнаў. Перамаглі віляйчане.**

## ● РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фантастычны трылер "**Галодныя гульні: І ўспыхне полымя**" (2 серыі, ЗША, 2013, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
28 лютага – у 21:00
3 сакавіка – у 18:00
5 сакавіка – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Анімацыйная камедыя "**Лега. Фільм**", 3D (Аўстралія, ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
1 сакавіка – у 12:30
2 сакавіка – у 14:00
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Гістарычная драма "**Пампеі**", 3D (ЗША, Германія, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
28 лютага – у 18:30
1-6 сакавіка – у 21:00
Кошт білета – 50 000 рублёў.

Фантастычны баявік "**РабаКоп**" (ЗША, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
28 лютага – у 16:00
1 сакавіка – у 18:30
2 сакавіка – у 16:00
4 сакавіка – у 18:30
Кошт білета – 40 000-45 000 рублёў.

Камедыя "**Нерэальнае каханне**" (Расія, 2014, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
1 сакавіка – у 16:30
6 сакавіка – у 19:00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Фэнтэзі, баявік "**Я, Франкенштэйн**", 3D (ЗША, Аўстралія, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
2 сакавіка – у 18:00
6 сакавіка – у 17:00
Кошт білета – 50 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды "**Белка і Стрэлка: Прыгоды на Месяцы**", 3D (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
1 сакавіка – у 14:30
2 сакавіка – у 12:00
Кошт білета – 20 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Цудадзейны лес**" (Францыя, 2012)
1, 2 сакавіка – у 15:30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Драма "**Апошняя гульня ў лялькі**" (Расія, 2010)
28 лютага-2 сакавіка – у 17:30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Баявік, камедыя "**Агент пад прыкрыццем**" (ЗША, 2012)
28 лютага – у 19:30
1 сакавіка – у 21:30
2 сакавіка – у 19:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Меладрама **"Дыяна: Гісторыя кахання"** (Вялікабрытанія, Францыя, 2013)
28 лютага – у 21:30
1 сакавіка – 19:30
2, 3 сакавіка – 21:30
4, 5 сакавіка – 19:30
6 сакавіка – 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Меладрама, камедыя "**Усё, акрамя кахання**" (Аўстралія, 2012)
4, 5 сакавіка – у 21:30
6 сакавіка – у 19:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

ПРЭМ'ЕРА. "**Нязваны госць**" (ну, ве-е-е-льмі сур'ёзная камедыя), *Святлана Бартохава*
28 лютага – у 19:00

**РЭПЕРТУАР НА САКАВІК**

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Кошкі-Мышкі**" (казка-гульня па матывах п'есы *Аркадзя Хайта* "Дзень нараджэння ката Леапольда")
14, пятніца, у 11:30

"**Вучань ведзьмака, альбо Бітва чарадзеяў**" (казка-страшылка), *Сяргей Бялоў*
28, пятніца, у 10:30

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Маленькі свет...**" (жорсткая меладрама ў 2-х дзеях), *Алена Папова*
4, аўторак, у 19:00

"**Каб вы жылі...**" (драма ў 2-х дзеях), *Міхаіл Каломенскі*
6, чацвер, у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Падобны на Стынга**" (рэтра ў 2-х частках), *Ірына Пісьменная*
11, аўторак, у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Нязваны госць**" (ну, ве-е-е-льмі сур'ёзная камедыя), *Святлана Бартохава*
12, серада, у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёраў*
14, пятніца, у 19:00

"**Камедыя**" (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага, Ф.Аляхновіча), *Уладзімір Рудаў*
18, аўторак, у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Карона з кахання**" (лірычная драма ў 2-х дзеях, прысвечаная жыццю і творчасці Янкі Купалы), *Анатоль Дзялендзік*
21, пятніца, у 19:00

"**№13**" (камедыя ў 2-х дзеях), Рэй Куні
25, аўторак, у 19:00

**МІЖНАРОДНАМУ ДНЮ ТЭАТРА ПРЫСВЯЧАЕЦЦА:**

"**Тэатр – чароўны свет**" (святочны вечар)
27, чацвер, у 18:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Не такі, як усе**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Аляксей Слапоўскі*
28, пятніца, у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17**. E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/

## ● ГАРАСКОП (28 ЛЮТАГА- 6 САКАВІКА)


**Авен**. Кантралюйце свае эмоцыі. Цяпер вы здольныя многае змяніць, прычым ад вас не спатрэбіцца ніякіх звышмагутных намаганняў, а ад завершанасці ў справах вы самі адчуеце глыбокае задавальненне.


**Цялец.** Пазбягайце неабдуманых ўчынкаў, здзейсненых пад уплывам эмоцый. Не вырашайце пытанні там, дзе вы не спецыяліст. Лепш звярніцеся па дапамогу.


**Блізняты.** Не шкадуйце аб згубленых магчымасцях. Змяніць мінулае магчыма, толькі змяніўшы да яго свае адносіны. Прыслухайцеся да ўнутранага голасу.


**Рак.** Удзяліце які дзень паездцы на прыроду. Не бойцеся ветру, падстаўляйце яму свой твар, адчуйце адзінства з прыродай. Калі не атрымаецца, схадзіце на выставу, у тэатр.


**Леў.** Пазбягайце перанапружання, яно непажадана для вашага здароўя. Размяркуйце час так, каб вы маглі займацца справай, якая падабаецца.


**Дзева.** Вы сталі нецярплівымі, нават агрэсіўнымі. Прафесійныя справы вас не цікавяць, але вы пагружаецеся ў іх, каб забыць пра ўласныя праблемы, якія прыгнятаюць вас. Вядзіце барацьбу не з праблемамі, а з сабой.


**Шалі.** Наладзьце адносіны з блізкімі людзьмі. Пагаварыце адкрыта, ад душы, так вы пазбавіцеся ад грузу. Нават калі праблему не ўдасца вырашыць імгненна, гэта ўсё роўна пойдзе на карысць адносінам.


**Скарпіён.** Узважвайце кожнае слова, бо балбатлівасць можа сыграць з вамі злы жарт.


**Стралец.** У вас можа з'явіцца сур'ёзная падстава задумацца пра сэнс жыцця. Праявіце сілу волі – і вы пазбегнеце сур'ёзных выдаткаў, якія пагражаюць пахіснуць ваша фінансавае становішча.


**Казярог.** У спрэчных пытаннях, каб не нашкодзіць сабе, трымайце рот на замку. І не задумвайце рамонт ці нават перастаноўку мэблі на скорую руку.


**Вадалей.** Што б ні адбывалася, але ўсе падзеі пакладуць пачатак пераменам да лепшага. Калі што ідзе не так, не губляйцеся, а падумайце, якую карысць вы маглі б атрымаць з дадзенай сітуацыі.


**Рыбы.** У вас будзе развівацца ўнутраная сіла і ўлада дзякуючы росту вашай духоўнай энергіі, інтуіцыі і пераадоленню скрытай боязі і трывог.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Камент-эксперт Rh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР'Е

### 1 сакавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -2 / 0 | | -2 / +1 | | -1 / +3 | | +2 / +4 | |
| | 742 | ↑ 2 | 741 | ↖ 3 | 740 | ↖ 4 | 736 | ← 5 |
| Вільня | -1 / 0 | | -1 / +1 | | 0 / +2 | | +1 / +3 | |
| | 749 | ↖ 5 | 749 | ↖ 5 | 747 | ↖ 6 | 744 | ← 6 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 8.00
Захад 18.49
Даўжыня дня 10.49

Усход 7.38
Захад 19.24
Маладзік




## ПРЫКМЕТЫ

- 2 сакавіка – даравальная нядзеля. Нядзеля сырапусная. Развіталіся з Масленіцай. Загавіны на Вялікі пост.
- У марцы як у гарцы: сцюдзёна, цёпла, снег, дождж.

## СВЯТЫ

# Масленіцу адсвяткуюць у Куранцы і Вілейцы

**ВІЛЕЙКА. Святкаваць Масленіцу на Вілейшчыне пачнуць 1 сакавіка.**

У Куранцы, на плошчы Свабоды, пройдзе свята "Масленічныя найгрышы". Пачнецца яно ў 12 гадзін. Пройдзе тэатралізаваная дзея, з канцэртнымі нумарамі выступяць артысты з розных куткоў раёна, свае вырабы прапануюць народныя майстры.

А ў Вілейцы 2 сакавіка адбудзецца народнае гулянне "Масленіца прыйшла, у карагод усіх павяла". Пройдзе яно ў Ніжнім парку. Пачатак – у 12 гадзін. Артысты пакажуць народны абрад "Праводзіны зімы". Ахвотныя змогуць паўдзельнічаць у народных забавах, спартыўных спаборніцтвах, разам з артыстамі праспяваюць масленічныя песні.

**Аддзел інфармацыі.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Чым здзіўляе "Тэатр мод" Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа?**



Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 9 (983) 28.02.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 179. Падпісана ў друк у 10.00 27.02.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.